веснік PRAVAБАРОНЧЫ

№ 4 (12) 04.2013

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

**СЯРГЕЙ ГОЎША НАГЛЯДНУЮ СКАРГУ** НАКІРАВАЎ ГЕНПРАКУРОРУ

СТАР. 2

**АДЗІН З САМЫХ СТАРАЖЫТНЫХ БУДЫНКАЎ** СПРАБУЮЦЬ ЎРАТАВАЦЬ БАРАНАВІЧАНЕ

СТАР. 3

# АНДРЭЙ КУРЭЙЧЫК: "Я НЯ ВЕРУ, ШТО СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ ПАЗБАВІЦЬ НАС АД ЗЛАЧЫННАСЦІ"

Вядомы беларускі і расейскі сцэнарыст і актор Андрэй Курэйчык падпісаў петыцыю супраць смяротнага пакарання ў Беларусі.



"Я падпісаў петыцыю супраць смяротнага пакарання, паколькі не веру, што гэта пазбавіць нас ад злачыннасці, не веру, што гэта з'яўляецца цывілізаваным метадам пакарання злачынцаў. Я ня веру, што ва ўмовах беларускай прававой сістэмы можна пазбегнуць фатальных памылак. Мы павінны быць гуманнымі і цывілізаванымі. Менавіта таму я і падпісаў гэтыю петыцыю", – так пракаментаваў сваё рашэннеАндрэй Курэйчык.

У межах кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" праходзіць збор подпісаў за адмену смяротнай кары. Амаль 15 тысяч чалавек зрабілі свой выбар. Сярод тых, хто выказаўся супраць варварскага пазбаўлення жыцця ад імя дзяржавы – вядомыя літаратары, акторы, музыканты, грамадскія і палітычныя дзеячы: Аляксандр Надсан, Святлана Алексіевіч, Адам Глобус, Зміцер Вайцюшкевіч, Уладзімір Пугач, Лявон Вольскі, Жанна Літвіна, намеснік міністра замежных спраў Вялікабрытаніі Джэрэмі Браўн, сусветныя зоркі Стынг і Ларын, а таксама тысячы іншых вядомых асоб.

spring96.org

## ТАЛАКА ЛЯ МІЛАВІДСКІХ ПОМНІКАЎ ПАЎСТАНЦАМ 1863 ГОДА

Баранавіцкія грамадскія актывісты 13 красавіка арганізавалі талаку па дабраўпарадкаванні мілавідскіх помнікаў, усталяваных у гонар паўстанцаў 1863 года. Раней тут адбылася аўтамабільная аварыя і актыўна вяліся лесанарыхтоўкі, таму тэрыторыя вакол помнікаў стала вельмі забруджанай.



– Найперш мы засыпалі яму і параўнялі пляцоўку каля камня-валуна з мемарыяльнай плітой у гонар касінераў Кастуся Каліноўскага і Аляксандра Лянкевіча. Затым мы прыбралі тэрыторыю ад living рознага смецця і спадзяёмся яшчэ пасадзіць кветкі, як толькі прагрэецца мілавідская зямля, – адзначыў праваабаронца Сяргей Гоўша.

За працай актывістаў актыўна "назіралі" буслы, якія даўно палюбілі гасцінную мілавідскую зямлю і неба.



Вітусь Свабодскі

### На добраўпарадкаванне паркаў ў Баранавічах грошай няма



Так адказала 150 грамадзянам Баранавіч Брэсцкая абласная ўлада на іх пісьмо ў Адміністрацыю прэзідэнта.

Ужо некалькі гадоў жыхары Баранавічаў накіроўваюць скаргі ў розныя інстанцыі на тое, што ў двух гарадскіх парках няма як адпачываць: яны недабраўпарадкаваныя і не маюць нават прыбіральняў.

Праўда, улады крыху абнадзеілі ў апошнім адказе, што прыбіральня ў адным з паркаў з'явіцца ў канцы траўня. Крыху раней паставілі два дзіцячыя атракцыёны. На гэтым улада, як сведчыць апошні адказ, паставіла крыж: няма сродкаў.

"Такі адказ проста шакуе, – паведамляе арганізатар гэтай кампаніі грамадскі актывіст Рыгор Грык, – калі сапраўды што трэба людзям – заўсёды няма грошай. А куды яны дзяваюцца? Людзі ж працуюць, сплочваюць падаткі, а грошай усё няма і няма. На дажынкі ці лядовыя палацы – калі ласка".

Пад заявамі наконт добраўпарадкавання паркаў было сабрана агулам 500 подпісаў. А вынік, можна сказаць, нулявы.

Глеб Лушынскі

## сябрам свабоднага прафсаюза адмовілі ў памяшканні



Генадзь Фядыніч, лідэр прафсаюзу РЭП

24 красавіка супрацоўніца баранавіцкага гатэля "Гарызонт-Тур" паведаміла грамадскаму актывісту Віктару Мезяку, што адміністрацыя адмаўляе гарадской структуры свабоднага прафсаюза ў прадастаўленні канферэнц-залы 25 красавіка і спыняе з ёю ўсе стасункі, не назваўшы пры гэтым аніякіх прычын такога нечаканага рашэння.

Яшчэ 18 красавіка гарадскія актывісты свабоднага прафсаюза правялі сустрэчу жыхароў горада са старшынёй Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (Прафсаюз РЭП) і іншых галін народнай гаспадаркі Генадзем Фядынічам. Сустрэча адбывалася ў гатэлі "Гарызонт-Тур". Удзельнікі сустрэчы прыйшлі да высновы, што неабходна арганізаваць бясплатныя юрыдычныя кансультацыі для баранавіцкіх працоўных, каб людзі ведалі, што трэба рабіць, калі іх працоўныя правы парушаюцца.

Першая кансультацыя павінна была адбыцца ў чацвер, 25 красавіка, у канферэнц-залі гатэля "Гарызонт" з 18.00 да 19.00.

– Не далі памяшкання для сустрэчы 25 красавіка нашага юрыста з працоўнымі людзьмі горада. Але сёння цёпла і ў Баранавічах шмат месца, дзе можна арганізаваць сустрэчу, – паведаміў кіраўнік гарадской суполкі РЭП Рыгор Грык.

Вера Антановіч

# ПРАВААБАРОНЦА СЯРГЕЙ ГОЎША НАКІРАВАЎ НАГЛЯДНУЮ СКАРГУ ГЕНПРАКУРОРУ

Праваабаронца Сяргей Гоўша 3 красавіка накіраваў наглядную скаргу Генеральнаму Пракурору на вызначэнне суддзі Маскоўскага р-на г. Мінска ад 31мая 2010 г. і вызначэнне судовай калегіі па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда ад 5 жніўня таго ж году.

У ёй паведамляецца, што 14 мая 2010 г. у адпаведнасці з ч.2 арт 60 Канстытуцыі РБ Сяргей Гоўша звярнуўся ў суд Маскоўскага раёна г. Мінска з іскавай заявай да дзяржавы аб кампенсацыі маральнай шкоды. Аднак вызначэннем суддзі ад 31 мая праваабаронцу было адмоўлена ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы з тае прычыны, што, на думку суддзі, яго іскавая заява непадведамнасная суду.

Не пагадзіўшыся з вышэйзгаданым вызначэннем, 15 чэрвеня 2010 года Сяргей Гоўша звярнуўся ў судовую калегію Мінскага гарадскога суда з прыватнай скаргай, у якой прасіў вызначэнне суддзі суда Маскоўскага раёна г. Мінска адмяніць і перадаць справу на разгляд у суд першай інстанцыі. Але вызначэннем судовай калегіі Мінскага гарадскога суда ад 5 жніўня ў задавальненні скаргі Сяргею Гоўшы было адмоўлена з той жа прычыны.

"Але чаму, на падставе якога заканадаўчага акту, было вынесенае такое неаб'ектыўнае рашэнне?" - пытаецца ў Генеральнага Пракурора праваабаронца Сяргей Гоўша.

Аналагічны адказ ён атрымаў 30 снежня 2010г. і ад старшыні Мінскага гарадскога суда, на імя якога праваабаронца звярнуўся з нагляднай скаргай.

У сваёй скарзе на імя Генеральнага Пракурора Сяргей Гоўша прыводзіць свае доказы, што судовыя пастановы ад 31 мая 2010г. і ад 5 жніўня 2010г. былі прынятыя з істотным парушэннем дзеючага заканадаўства.

Сяргей Гоўша даводзіць Генеральнаму пракурору, што згодна ч.1 арт. 60 Канстытуцыі РБ кожнаму гарантуецца абарона яго правоў і свабод кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом у вызначаныя законам тэрміны. Зыходзячы з гэтай канстытуцыйнай нормы Канстытуцыйны Суд РБ у сваіх рашэннях (у прыватнасці – у Рашэнні ад 5 красавіка 2007 г.), а таксама ў штогадовых пасланнях аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь неаднаразова звяртаў увагу на прамое дзеянне ч.1 арт. 60 Канстытуцыі.



"Гэта азначае, – лічыць Сяргей Гоўша, – што калі нават нейкім, не згаданым у судовых пастановах, актам заканадаўства яго іскавая заява выведзена з падведамнасці суда, то суд, зыходзячы з вышэйзгаданых нормаў Канстытуцыі, у любым выпадку павінен узбудзіць і разгледзець справу па сутнасці і паставіць ва ўстаноўленным парадку пытанне аб прызнанні такога акта неканстытуцыйным (арт. 112 Канстытуцыі).

І з пазіцыі міжнароднага права (у прыватнасці, арт. 14 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і арт. 33 Закона "Аб міжнародных дамовах Рэспублікі Беларусь") пададзеная мною іскавая заява падведамнасная суду, а судовыя пастановы, якімі адмоўлена ва ўзбуджэнні грамадянскай справы, парушаюць маё права на доступ да суда", – падсумаваў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Зыходзячы з вышэй выкладзенага і кіруючыся арт.арт. 21, 59, 60 Канстытуцыі РБ, арт.арт. 436 - 439 ГПК Сяргей Гоўша просіць: запатрабаваць з суда Маскоўскага раёна г. Мінска справу па яго іскавай заяве аб кампенсацыі маральнай шкоды, праверыць законнасць і абгрунтаванасць вынесеных па ёй судовых пастаноў – вызначэнне суддзі Маскоўскага р-на г. Мінска ад 31 мая 2010г. і вызначэнне судовай калегіі па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда ад 5 жніўня 2010 г. і прынесці пратэст у парадку нагляду для іх адмены і ўрэшце вынесці рашэнне на падставе Канстытуцыі ды міжнародна-прававых актаў, ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь.

Сяргей Вастраўскі

# ГРАМАДСКАСЦЬ СПРАБУЕ ЎРАТАВАЦЬ АДЗІН З САМЫХ СТАРАЖЫТНЫХ БУДЫНКАЎ ГОРАДА

Грамадская актывістка Анжаліка Камбалава 15 красавіка атрымала ліст з Міністэрства культуры за подпісам намесніка міністра Т.І. Стружэцкага, у якім паведамляецца, што яе зварот аб наданні статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці аднаму з самых старажытных будынкаў Баранавічаў патрабуе дапрацоўкі ў адпаведнасці з нарматыўнымі прававымі актамі РБ.

Справа ў тым, што адзін з самых прыгожых і старажытных дамоў у Баранавічах ("прыбытковы дом" па вул. Тэльмана, 16) плануюць і могуць хутка зруйнаваць з мэтаю пашырэння вуліцы Тэльмана. Таму Анжаліка Камбалава звярнулася ў Міністэрства культуры з просьбаю надаць яму статус гісторыка-культурнай каштоўнасці на падставе закону "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны РБ" і Палажэння аб вядзенні дзяржаўнага спісу гісторыка-культурных каштоўнасцях РБ, якія зацверджаны Пастановай Савета Міністраў РБ ад 15 чэрвеня 2006 г. № 762.



Прыбытковы дом

З адказа намесніка міністра культуры вынікае, што міністэрства не супраць гэтай прапановы, але адказны дзяржаўны чыноўнік рэкамендуе заяўніцы зрабіць неабходнае абгрунтаванне сваёй прапановы.

– Думаю, што нам будзе няцяжка зрабіць неабходныя фотаздымкі, сабраць звесткі пра ўласніка (уладальніка) аб'екта, месцазнаходжанні нашага матэрыяльнага аб'екта, гістарычныя звесткі аб характары, абліччы, яго ўплыве на развіццё рэгіёна і г.д. Найбольш цяжка будзе зрабіць выкапіроўку з генеральнага плана з прывязкай аб'екта да мясцовасці, – адзначыла грамадская актывістка Анжаліка Камбалава.

Актывістка паведаміла таксама, што прыкладзе ўсе намаганні, каб захаваць прыгожы і адзін з самых старажытных дамоў у Баранавічах.

Сяргей Законнікаў

# РАСПАЧАЎСЯ ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА ДОБРАЎПАРАДКАВАНЕ ЖЛОБІНСКАГА ВОЗЕРА

У Баранавічах 20 красавіка распачаўся збор подпісаў за добраўпарадкаванне Жлобінскага возера. Прылягаючая да возера тэрыторыя зараз знаходзіцца ў моцна забруджаным стане: наўкол смецце, нягледзячы на тое, што возера размяшчаецца ў межах горада. Ініцыятарам збора подпісаў з'яўляецца грамадскі актывіст Рыгор Грык.

– Мы разумеем, што пытанні добраўпарадкавання Жлобінскага возера знаходзяцца ў кампетэнцыі Баранавіцкага гарвыканкама. Але мясцовыя чыноўнікі заўсёды адказваюць, што няма сродкаў на добраўпарадкаванне паркаў, вуліц і азёраў. Таму мы імкнемся прыцягнуць увагу да гэтай праблемы і цэнтральныя органы ўлады, – адзначыў Рыгор Грык.


Фота Рыгора Грыка

Подпісы грамадзян з прапановаю добраўпарадкавання Жлобінскага возера плануецца накіраваць у Міністэрства прыродных рэсурсаў Беларусі.

Рыгор Хахлоў

## Актывіста спрабуюць адміністрацыйна пакараць з любой нагоды

У Баранавіцкім гарадскім судзе 16 красавіка. адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы прадпрымальніка і грамадскага актывіста Мікалая Чарнавуса, які быццам перайшоў вуліцу Савецкую на чырвонае святло. Судовае пасяджэнне вёў старшыня суда М. Кміта.

– Мяне пераследуюць за актыўную грамадзянскую пазіцыю. Я працягваю змагацца за непрызнанне выбараў Рады прадпрымальнікаў на Баранавіцкім каапрынку. Мяне штрафуюць і за арганізацыю дабрачынных абедаў. Цяпер незаконна і з вялікімі парушэннямі склалі пратакол аб парушэнні правіл дарожнага руху, якія я не парушаў, – адзначыў М. Чарнавус.

28 сакавіка начальнік аддзела дзяржаўнай аўтаінспекцыі ГАУС падпалкоўнік Гецман Г.С. прыцягнуў Мікалая Чарнавуса да адміністрацыйнага пакарання праз папярэджанне (спачатку хацеў аштрафаваць на 100 000 руб.) на падставе арт.18.23 КаАП. З "аб'ектыўным" рашэннем начальніка АДАІ ГАУС Гецмана Г.С. грамадскі актывіст катэгарычна не пагадзіўся.

У судзе М. Чарнавус даводзіў, што не парушаў правілы дарожнага руху пры пераходзе вуліцы Савецкай. Ён паведаміў, што невядомы грамадзянін у форме прапанаваў яму заплаціць штраф на месцы, каб пазбегнуць адміністрацыйнага пратакола.

У судзе аргументы Мікалая Чарнавуса былі больш пераканаўчымі, чым супрацоўніка ДАІ капітана Д. Маргуна. Таму суддзя М. Кміта прыняў рашэнне адмовіць Гецману Г.С. у прыцягненні М. Чарнавуса да адміністрацыйнага пакарання праз папярэджанне, а адміністрацыйны пратакол вярнуць на дадаследаванне.

Сяргей Законнікаў

### Вясна будзе!

Па просьбе The New Times вядомы паэт і публіцыст Леў Рубінштэйн склаў спіс з сямі ключавых слоў нашага часу. Характэрна, што слова «вясна» паэт апісвае не толькі як кліматычную пару года. Дастаткова знакавыя для грамадзянскай супольнасці паняцці былі вызначаны ў наступным парадку:

1. Пратэст
2. Годнасць
3. Самапавага
4. Свабода
5. Пуцін
6. Супрацiў
7. Вясна

Апошняе вызначэнне Леў Рубінштэйн ахарактарызаваў наступным чынам: "І нарэшце, нельга ўпусціць з-пад увагі такое цалкам апраўданае цяперашнімі сезоннымі абставінамі слова, як "вясна" , у сілу не столькі нават кліматычных, колькі гістарычных абставінаў якое стала такім сакральным і такім жаданым для ўсіх нас. Тая сумная акалічнасць, што вясна ў нашых шыротах заўсёды фатальна спазняецца, заўсёды не паспявае за "агульначалавечым" календаром, кожны раз ўганяе калі не ў тугу, то ў устойлівую меланхолію. Але непахісная, хоць часам і няцвёрдая, упэўненасць у тым, што яна ўсё роўна наступіць, надае сіл і стымулаў жыць далей. Вясна будзе!"

Леў Рубінштэйн – вядомы расійскі паэт, крытык і публіцыст. У лютым 2013 запісаў для праекту «Супраць гамафобіі» відэазварот ў падтрымку ЛГБТ-супольнасці. У сакавіку 2013 прымаў удзел у серыі адзіночных пікетаў за вызваленне ўдзельніц Pussy Riot.

spring96.org

# ВАЛЯНЦІН СТЭФАНОВІЧ: "У БРУСЕЛЯ НЯМА НІЯКІХ ІЛЮЗІЯЎ У АЦЭНКАХ ГЭТАГА РЭЖЫМУ"

Валянцін Стэфановіч падчас канферэнцыі «Дыялог аб мадэрнізацыі Беларусі». Брусель, 9 красавіка 2013 г.

Такую выснову зрабіў намеснік старшыні ПЦ "Вясна" па выніках нядаўняга візіту ў сталіцу Еўразвязу, дзе ён браў удзел у працы канферэнцыі па дыялогу аб мадэрнізацыі Беларусі і меў шэраг працоўных сустрэчаў.

"Для "Вясны" як праваабарончай арганізацыі важна, каб перадумовай для аднаўлення дыялогу паміж Беларуссю і Еўразвязам было вызваленне і рэабілітацыя палітычных вязняў. Самая галоўная задача для нас – каб яны выйшлі на волю. І, па-другое, каб яны маглі паўнавартасна ўдзельнічаць у грамадска-палітычным жыцці краіны. Гэта азначае, што з іх павінна быць знятая судзімасць, якая, паводле закона, шмат у чым абмяжоўвае іх правы, у тым ліку палітычныя", – падкрэслівае праваабаронца.

Гэтую пазіцыю Валянцін Стэфановіч агучваў у Брусэлі, дзе ён сустракаўся ў прыватнасці з кіраўніком дэлегацыі Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю Філіпам Качмарэкам і прадстаўнікамі офісу еўракамісара па пытаннях пашырэння і палітыцы добрасуседства Штэфана Фюле.

Што тычыцца пазіцыі Еўразвязу, то Стэфановіч адзначае, што зараз там існуе трэнд на аднаўленне дыялогу з беларускімі ўладамі. "Яны гавораць, што шмат хто разачараваны тым, што ўжытыя санкцыі не прывялі да вызвалення вязняў, што яны яшчэ больш ізалююць краіну, яшчэ больш накіроўваюць яе ў поле ўплыву Расіі".

"З іншага боку, па выніках візіту ў Брусель я не бачу ніякіх ілюзіяў у ацэнках гэтага рэжыму. Ні ў каго там гэтых ілюзіяў няма. І крэдыт даверу Лукашэнкі і яго атачэння вельмі моцна падарваны пасля 19 снежня 2010 году. Я не думаю, што ў Еўразвязе хтосьці ўсур'ёз спадзяецца на лібералізацыю (ці дэмакратызацыю, ці мадэрнізацыю – як заўгодна гэта можна назваць) палітычнай сістэмы ў Беларусі, якую б праводзілі самі беларускія ўлады", – кажа праваабаронца.

Паводле меркавання Стэфановіча, на бягучы момант Еўразвяз фармулюе асноўную задачу – вызваленне палітычных вязняў і змяншэнне ўзроўню рэпрэсіяў у Беларусі. Напэўна, гэта максімум, якога на сённяшні можна дамагчыся.

spring96.org

# ПРАКУРОРУ НАКІРАВАНА СКАРГА НА ДЗЕЯННІ СУПРАЦОЎНІКА ГАУС

Грамадскі актывіст Віктар Сырыца 8 красавіка накіраваў пракурору горада Баранавічы скаргу на дзеянні супрацоўніка ГАУС маёра Паўла Кульгавіка, які зацягнуў прыняцце рашэння аб заключэнні дамовы на абслугоўванне пікета 25 сакавіка, што паслужыла прычынай ягонай забароны. У скарзе В. Сырыца паведамляе, што 1 сакавіка 2013 года ён пісьмова звярнуўся да начальніка Баранавіцкага гарадскога аддзела ўнутраных спраў Герасімовіча В.У. і прасіў кіраўніцтва ГАУС заключыць з ім дамову для абслугоўвання пікета 25.03.2013 года.

– 1 сакавіка я заключыў дамову з Баранавіцкім ЖКГ, а 4 сакавіка з Баранавіцкай цэнтральнай паліклінікай. Спадзяваўся, што і з міліцыяй таксама змагу хутка заключыць дамову па абслугоўванню пікета 25 сакавіка, – паведаміў Віктар Сырыца.

Аднак усе візіты ў ГАУС скончыліся безвынікова, бо маёр П. Кульгавік цягнуў час і не заключаў дамовы па абслугоўванню пікета 25 сакавіка.

Толькі 26 сакавіка грамадскі актывіст атрымаў пісьмовы адказ намесніка начальніка аддзела А.А.Трафімава, у якім паведамлялася, што паколькі гарвыканкам забараніў 19 сакавіка правядзенне пікета, то і няма падставы для заключэння дамовы па аказанню паслуг па ахове грамадскага парадку падчас пікету 25 сакавіка.

– Я даводжу пракурору, што мне як раз і забаранілі пікет таму, што я не заключыў дамову з ГАУС, як гэта патрабуе рашэнне гарвыканкама ад 16.06.2009 года. Таму прашу правесці пракурорскую праверку і абавязаць маёра Кульгавіка П.С. выконваць рашэнне гарвыканкама ад 16.06.2009 года № 1497 "Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у Баранавічах" і закон РБ ад 30.12.1997г. № 114-З "Аб масавых мерапрыемствах у РБ", – адзначыў Віктар Сырыца.

Вера Антановіч

"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК" Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

веснік ПРАВАБАРОНЧЫ